

# іскры Скарыны

6 жніўня 1517 году
ў Празе надрукавана
першая беларуская кніга




Часопіс «Іскры Скарыны» выдаваўся ў 1931–1935 гадох у Празе
Беларускім (Крывіцкім) культурным таварыствам імя Ф. Скарыны

# Сучасьнікі

Сёньня,

праз 500 гадоў пасьля Скарыны,

Кожны, хто па-беларуску моліцца,

Кожны, хто па-беларуску каецца,

Кожны, хто па-беларуску лечыць,

Кожны, хто па-беларуску вучыць,

Кожны, хто па-беларуску чытае,

Кожны, хто па-беларуску піша,

Кожны, хто па-беларуску друкуе, —

Друкуе, піша, чытае, вучыць, лечыць, каецца і моліцца так,

Бо ёсьць Скарына.

Кожны.

Аляксандар Лукашук
Прага

# Двойчы пражанін

Згадачы дасьледніка Ё. Добраўскага лічыцца, што Скарына мог зьявіцца ў Празе у канцы 1515 году. Мяркуецца, што ён суправаджаў вялікага князя ВКЛ і караля Польшчы Жыгімонта на Венскі кангрэс і меў у Празе нейкія службовыя абавязкі. Тут ён вырашыў застацца і пачаў рыхтаваць свой выдавецкі праект. Цягам 1517–19 гадоў у Празе выйшлі 23 кнігі Старога запавету, што сьведчыць пра інтэнсіўную працу і прадуманы плян. Аднак эпідэмія мору, што пачалася ў 1520-м, прымусіла Скарыну пакінуць Прагу. Ён накіраваўся ў Вільню, дзе заклаў друкарню (першую ў ВКЛ), парадаваў землякоў новымі кніжкамі і ажаніўся. Скарына пабраўся з Маргарытай, удавой ягонага віленскага фундатара Юр’я Адверніка.

Вярнуўся Скарына ў Прагу праўдападобна ў 1534-м, і ўжо з двума сынамі — Сімяонам і Францішкам. Дакумэнтальна пачатак ягонага другога побыту датаваны 1535 годам. У лісьце чэскага караля Фэрдынанда гаворыцца, што Францішак Скарына пасланы зь Вены ў Прагу працаваць каралеўскім садоўнікам.

Пытаньне, ці быў гэта той самы Скарына або нехта іншы (італьянец Франчэска), на думку сучасных чэскіх скарыназнаўцаў (Францішка Сокалава, Ільля Лямешкін), ужо даўно вырашанае. Сумневу няма — той самы. Галоўным пацьверджаньнем ёсьць грамата караля Фэрдынанда ад 29 студзеня 1552 году, дадзеная сыну Скарыны Сімяону з нагоды сьмерці бацькі. У ёй гаворыцца: «Мы, Фэрдынанд І, абвяшчаем гэтай граматай, што доктар Францішак Рус Скарына з Полацку, (які) некалі (жыў), наш садоўнік, у гэтым Каралеўстве Чэскім быў чужынцам, сышоў на вечны спакой і пакінуў пасьля сябе сына Сімяона Руса і пэўную маёмасьць, паперы, даўгі ды іншае яму належнае». Прынцыпова, што тут доктар Францішак Рус Скарына з Полацку згадваецца як наш садоўнік. Гэтую працу Скарына выконваў да лета 1539 году.

У 1541 годзе падчас пажару ў Празе загінуў адзін з Скарынавых сыноў Францішак. Бацька, праўдападобна, перажыў яго гадоў на 10.

# Дзе ж была друкарня?

Чэскія навукоўцы схіляюцца да думкі, што Скарына арандаваў адну з друкарняў на Старамескім пляцы Прагі. Мяркуецца, што гэта магла быць друкарня Яна Сэвэрына. На карысьць гэтай вэрсіі сьведчыць факт, што Сэвэрын памёр у 1519 годзе. З 1520 году ягоную справу (і друкарню) пераняў сын Павал, які пачаў выдаваць свае кнігі. Паводле чэскіх гісторыкаў, Скарына якраз тады спыніў выданьне Бібліі ў Празе, бо ўжо ня меў сродкаў арандаваць іншую друкарню, і зьехаў у Вільню.

Арыентыры: ззаду Старамескай ратушы, адрас Mikulášská 22/8.

У Сэвэрына быў паплечнік, яшчэ адзін са спонсараў выданьня чэскай Бібліі **Ян Білы**, дом якога, паводле крыніцаў, стаяў на Старамескім пляцы «насупраць ратушы». Некаторыя навукоўцы меркавалі, што і ў доме Білага магла працаваць друкарня. Паводле адукацыі і асноўнай працы Ян Білы, як і Скарына, быў лекарам.

Магчыма, прафэсійная блізкасьць Білага і Скарыны дала падставы чэскім навукоўцам **Вацлаву Жыдліцкаму** і **Мілаславу Зіму** лічыць, што Скарына друкаваў свае кнігі на Старамескай плошчы ў доме Яна Білага, пабудаваным у 1371 годзе насупраць Ратушы, і вядомым сёньня пад гістарычнай назвай — «U čapů».

Арыентыры: Staroměstské nám. 481/22.

Іншую вэрсію вылучыў вядомы расейскі дасьледнік Скарынавай спадчыны прафэсар **Яўген Неміроўскі**. Ён заўважыў, што праская друкарня, якая належала чэскаму выдаўцу, пісьменьніку і перакладніку **Мікулашу Коначу**, у 1517–19 гадах практычна не працавала, гэта значыць не выдавала чэскіх кніг. А гэта акурат час выхаду ў сьвет праскіх выданьняў **Францішка Скарыны**. На думку Неміроўскага, Скарына арандаваў друкарню Конача, бо засноўваць уласную ў Празе было нерацыянальна.

Арыентыры: Друкарня Конача была ў доме «U Bílého Lva» на Садавінным рынку (Ovocný trh), гістарычная забудова якога цяпер не існуе.



У гэтых будынках за часам Скарыны месьціліся праскія друкарні

# Першае сэлфі ў сакральнай кнізе

ранцішак Скарына стаў першым у сьвеце чалавекам, які зьмясьціў свой партрэт у Сьвятым пісаньні.

У XV стагодзьдзі ў Эўропе выйшла 126 друкаваных Бібліяў. У першай чвэрці XVI стагодзьдзя гэтая лічба павялічылася яшчэ на некалькі дзясяткаў. Аднак у ніводным з гэтых выданьняў ня зьмешчаны партрэт перакладніка або выдаўца. Толькі аднойчы, у 1490 годзе, у Бібліі вэнэцыянскага друкара Нікалё Малермі зьявілася невялічкая застаўка з выявай чалавека за пісьмовым сталом, але бяз подпісу і пазначэньня імя.

У Скарыны ж ягоны ўласны партрэт — не застаўка. Ён займае цэлую старонку і падаецца ў дзьвюх кнігах Бібліі — Кнізе Ісуса Сірахава і Чацьвёртай Кнізе Царстваў. Партрэт створаны з натуры, ён дакладна датаваны, мае герб асьветніка і ягонае імя, пададзенае славянскай вязьзю. Гэта — нечуваны акт дэманстрацыі ўласнай годнасьці, які мог адбыцца толькі ў эпоху Адраджэньня. І пайсьці на яго мог толькі чалавек, які вызнаваў ідэі італьянскага Рэнэсансу і гуманізму таго часу. Самапіярам можна назваць і частае нагадваньне Скарынам пра свой тытул доктара мэдыцыны. Асьветнік меў доктарскую ступень і ў свабодных навуках, але, памятаючы пра спрадвечную павагу людзей да лекараў, наперад выстаўляў менавіта доктарскую ступень у мэдыцыне.

Наступным разам партрэт рэальнага чалавека ў Бібліі зьявіўся ў Эўропе толькі ў 1641 годзе — праз 124 гады пасьля Скарыны.

# Вэрсія другога зашыфраванага партрэту

Навукоўцы даўно падазравалі, што ў Бібліі ёсьць не адзін партрэт Скарыны. Яшчэ ў XIX стагодзьдзі прафэсар Кіеўскага ўнівэрсытэту **Пётар Уладзіміраў** пісаў, што на каляровай ілюстрацыі ў Кнізе Прамудрасьці Божай пад назвай «Бласлаўленьне» ў вобразе апостала Яна, які моліцца да Хрыста, можа быць выяўлены сам Скарына.

Малады чалавек на гравюры апрануты ў чырвоную доктарскую мантыю часоў Скарыны — чырвоны колер у тыя часы быў адзнакай вучонасьці. Таму ідэю, што гэта сам Скарына, падтрымлівалі і беларускія мастацтвазнаўцы Лявон Баразна і Віктар Шматаў.

Да іхнай думкі далучыўся і чэскі гісторык-скарыназнавец Пэтр Войт. Ягоны даклад прагучаў на міжнародным сымпозыюме ў Нацыянальнай біблятэцы Чэхіі 15 чэрвеня 2017 г.



# Першы Нобэлеўскі ляўрэат зь Беларусі знаёміцца з кнігай першадрукара

У кастрычніку 2016 г. пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч наведала Нацыянальны музэй у Празе, дзе ёй прадэманстравалі арыгінальнае выданьне Францішка Скарыны.

«У Чэхіі захаваўся адзіны экзэмпляр праскіх выданьняў Скарыны, гэта «Ісус Сірахаў», 4-я з кніг ягонай Бібліі, — гаворыць загадчык аддзелу рукапісаў і старадрукаў Нацыянальнага музэю Чэхіі Рыхард Шыпэк (Richard Šípek). — Скарына дакладна датаваў дзень выхаду — 5 сьнежня 1517 году. Кніга невялікага памеру — 21 на 15 сантымэтраў, у ёй 60 захаваных старонак, некаторыя, імаверна, страчаныя. Адметна, што гэтая кніга вярнулася ў Прагу з Масквы. У 1867 годзе група чэскіх адраджэнцаў наведвала ў Маскве вядомага навукоўца-славіста Пятра Бяссонава, яны атрымалі ад яго кнігу як падарунак для Нацыянальнага чэскага музэю. Такім велікадушным і шчырым было тады славянскае братэрства».

https://gdb.rferl.org/191D17E0-5934-4274-BE4A-FD03C4D884B6.jpg



# Нашчадкаў Скарыны можна знайсьці праз ДНК

Гісторык Павал Котаў і дасьледнік Сяргей Кнырэвіч шукалі сьлядоў Скарынавага сына Сімяона ў архівах гораду Індржыхаў Градэц (Jindřichův Hradec) на поўдні Чэхіі. І ім пашанцавала! Сёлета знайшліся раней невядомыя дакумэнты перапіскі Сімяона Руса з прадстаўніком чэскага магнацкага роду Адамам з Градца. Скарынаў сын служыў у шляхціча садоўнікам і лекарам. І прасіў, каб працадаўца прафінансаваў яму лячэньне на водным курорце, якое Сімяон хацеў прадоўжыць. Гаворка ішла пра мястэчка Добра Вода, якое славілася ўжо тады. Як вынікае з распіскі, ягоная просьба была пачутая і ён атрымаў дадаткова 4 талеры.

На адным з дакумэнтаў быў чарнільны адбітак пальца Сімяона Руса. Можам задумацца, ці не захаваліся ў гэтым адбітку сьляды генэтычнага матэрыялу? Калі пашукаць сёньня сярод чэхаў людзей з прозьвішчам Рус і зрабіць аналіз на ДНК, яны могуць аказацца нашчадкамі Скарыны.

Індржыхаў Градэц цікавы нам і як магчымае месца пахаваньня Францішка Скарыны (калі не разглядаць Прагу). Бо з кім, як ня з сынам, меў бы дажываць стары бацька , ды яшчэ пры тым, што перадаў яму сваю прафэсію і веды?



# Скарына і ягоныя лімоны

Неўзабаве пасьля абраньня на чэскі трон (1526 г.) манарх з дынастыі Габсбургаў Фэрдынанд I вырашыў закласьці сады побач з рэзыдэнцыяй на Праскім Градзе. Ён надаваў гэтаму шмат увагі і шукаў дасьведчанага садоўніка. Урэшце такі чалавек знайшоўся — Францішак Скарына. З крыніцаў, якія захаваліся ў архіве Праскага граду, вядома, што сьпярша Фэрдынанд паслаў зь Вены ў Прагу праекты свайго садоўніка, якія сам разгледзеў і ўхваліў. Як мяркуе дацэнт Карлавага ўнівэрсітэту Ільля Лямешкін, гаворка аб праектах, якія ўклаў Францішак Скарына. Вельмі шкада, што гэтыя праекты не захаваліся. Усьлед за праектамі зьявіўся і сам садоўнік. Час ягонай працы тут – прыблізна ад вясны 1535 да лета 1539 году — стаў вырашальным для закладаньня садоў. А гэта значыць, што Скарына ня быў шараговым выканаўцам садоўніцкай працы, ён быў, як сказалі б сёньня, галоўным садовым дызайнэрам. Менавіта ягоная канцэпцыя садоў была ў першай палове XVI стагодзьдзя ўвасобленая, а тыя, хто прыйшоў пасьля, ня мелі іншай магчымасьці, як працягваць ягоны плян. Паводле І. Лямешкіна, і сьцены садоў Праскага граду нясуць рукапіс Скарыны — яны вызначылі і абмежавалі прастору так, як ён задумаў.

За Скарынам-садоўнікам італьянскія майстры пачалі таксама будаваць тут Letohrádek — летні палацык, прызначаны для адпачынку каралеўскай сям'і і гасьцей. Ён вядомы таксама як Letohrádek královny Anny. Жонкай Фэрдынанда была Ганна зь Ягайлавічаў, праўнучка Ягайлы і Соф'і Гальшанскай. У Фэрдынанда з Ганнай было 15 дзяцей.

Каралеўскі сад задумваўся так, каб праслаўіцца батанічнымі дзівосамі і незвычайнымі ў гэтых шыротах расьлінамі. Скарына, маючы досьвед жыцьця ў Італіі, пачаў вырошчваць фінікі, лімоны, апэльсіны, абрыкосы. Напрыклад, для фінікаў быў пабудаваны каменны fíkovník – каб расьліны былі абароненыя ад холаду , чэрпаючы цяпло ад сьценаў. Пазьней побач зь «фікоўнікам» узьнікла аранжарэя, разбураная швэдамі ў часе трыццацігадовай вайны. За часы прэзыдэнцтва Вацлава Гаўла з ініцыятывы ягонай жонкі Вольгі была пабудаваная новая сучасная аранжарэя. Тут цяпер растуць 17 гатункаў лімонаў, 4 — зялёных лімэтак, 3 – апэльсінаў. Менавіта таму ў часе міжнароднай канфэрэнцыі, прысьвечанай 500-годзьдзю першай беларускай Бібліі, на стале прэзыдыюму стаяла вялікая ваза зь лімонамі і апэльсінамі — як сымбаль разнастайных і багатых пладоў Скарынавай працы.

Арыентыры: Královská zahrada, уваход (бясплатны) паўночнымі варотамі ад прыпынку трамваю 22 «Královský letohrádek» або заходнімі варотамі з вуліцы U Prašného mostu. Адкрыта для наведваньняў з красавіка па кастрычнік.




Дацэнт Карлавага
ўнівэрсітэту
Ільля Лямешкін
зь лімонам Скарыны

# Чэхізмы ў мове Скарыны

Словы чэскага паходжаньня ўтвараюць у Скарынавых выданьнях значны пласт. Беларускі дасьледнік А. Булыка падлічыў, што іх (разам з вытворнымі) можа быць да 200. Гэта словы, адрозныя ад тых, што ўжываліся ў старабеларускай мове для адпаведных паняцьцяў. Напрыклад: гудба — музыка, рыбникъ — сажалка, смыркъ — яліна, ятра — пячонка ды інш. Гэтыя лексычныя сродкі сьведчаць пра непасрэдныя кантакты першадрукара з чэхамі.

**Іскры Скарыны**

Спэцыяльны выпуск да 500-годзьдзя першай друкаванай беларускай кнігі. Прэзэнтацыя ў Празе 6 жніўня 2017 г., пад час урачыстага беларускага шэсьця ад друкарні Скарыны на Старамесцкай плошчы да помніка першадрукару на Градчанах.

Рэпартаж са сьвята, а таксама публікацыі цыкля Сяргея Абламейкі «Нечаканы Скарына» глядзіце на сайце Беларускай службы Радыё Свабода

www.svaboda.org

Адказная за выпуск Алена Ціхановіч.
Тэксты: Сяргей Абламейка, Алена Ціхановіч.
Падзяка за прадастаўленую ілюстрацыю Сяргею Кнырэвічу.
Графічны дызайн: Генадзь Мацур.
FOL


1
2
3
Месца, дзе магла быць друкарня Скарыны
(ul. Mikulášská 22/8, Praha 1)
Месца, дзе магла быць друкарня Скарыны
(Staroměstské nám. 481/22, Praha 1)
Месца, дзе магла быць друкарня Скарыны
(Ovocný trh, Praha 1)
Мэмарыяльная шыльда Скарыну
(ul. Karlova 190/1 (у двары), Praha 1)
Месца, дзе быў дом, у якім мог жыць Скарына,
і падчас пажару якога мог загінуць адзін зь яго сыноў
(Malostranské náměstí 7/19, Malá Strana, Praha 1)
Каралеўскі сад, які закладаў Скарына
і дзе ён працаваў садоўнікам
(ul. Mariánské hradby 1, Hradčany, Praha 1)
Помнік Францішку Скарыну
(парк на рагу вуліц Jelení i Keplerova, Hradčany, Praha 1)
Радыё Свабода
Royal Garden
Jelení příkop
Chotkovy sady
VILLA RICHTER
Hanavský pavilon restaurant
Fuestenburská zahrada
KATEDRÁLA SVATÉHO VÍTA
Sternberg Palace
PRAGUE CASTLE
U Hrocha
Valdštejnská zahrada
Fish
The Prague Loreto
Muzeum alchymistů a mágů staré Prahy
St Nicholas Church
Vojanovy Sady
Kampa Park
Vltava
Nemocnice Na Františku
Jazz Boat
Speculum Alchemiae Museum
OLD JEWISH CEMETERY
Outlet
Kotva
THE PRAGUE ASTRONOMICAL CLOCK
PRASNA BRANA
Klementinum
CHARLES BRIDGE
Bedrich Smetana Museum
Czech Beer Museum
Museum of Communism
U Pinkasu
Lego Museum
Wenceslas Square
Billa
Cold war Mu
Pizzeria Kmotra
Restaurace Žofín
Mosaic House
Beer Spa - Pivni Lazne Spa Beerland
Cicala Trat